


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№3 ЛІСТАПАД 2001 г.

## ВЕСТКІ

У час восеньскіх канікулаў былі падведзены вынікі школьнай краязнаўчай экспедыцыі "Наш край". На гэты раз працы юных краязнаўцаў разглядаліся ў некалькіх намінацыях. У намінацыі "Легенды і паданні Браслаўшчыны", на якую было пададзена каля 20 работ, вызначыліся школьнікі 3-й і 2-й браслаўскіх школ і вучні Купчэльскай БШ. У секцыі "Краязнаўчая падзея года" журы адзначыла Друсвяцкую, Іказненскую, Ахрэмаўскую, Відзаўскую сярэднія школы, СШ№3, Канстанлінскую БШ. Цікава было паслухаць аповяды вучняў у секцыі "Што расказала музейная рэч". Вучні Купчэльскай школы знайшлі рэчы салдата, які пахаваны ў в.Кумпіні, з Ахрэмаўцаў прывезлі шыкоўны ручнік, а рабяты з Друсвятаў знайшлі ў закінутай хаце партрэт былога ўладальніка барона Гільдэнбандта. Былі адзначаны і іншыя юныя краязнаўцы: Вялічка Мікалай, Жусель Алена, Дуброўскі Віталь, Даргель Ірына, Казімірская Анжэла. Разам з падвядзеннем вынікаў працы юных краязнаўцаў за мінулы вучэбны год праводзіўся вочны тур краязнаўчай алімпіяды. Удзельнікі, а было 15 прадстаўнікоў школ раёна, адказалі на 20 пытанняў, сярод якіх былі і відзапытанні. Найбольшую колькасць балаў набраў вучань гімназіі Кароль Уладзіслаў. Другое месца заняла Жураўская Юля з СШ№2, а трэцяе месца падзялілі Валчонак Алеся з Грытунскай школы і Бунта Яўгенія з гімназіі. У гэтым навучальным годзе іх чакаюць новыя экспедыцыі, даследванні і конкурсы.



Краязнаўцам Друсвяцкай школы удалося адшукаць вельмі цікавую рэч – чорна-белы партрэт уладальніка друсвяцкага маёнтка барона Аляксандра Іскуль фон Гільдэнбандта (1856-1921). На партрэце зрэлы мужчына ў афіцэрскім мундзіры з узнагародамі. Біяграфія барона вядома па яго асабістай справе, якая зберагаецца ў Расійскім ваенна-гістарычным архіве (Масква). Ён быў ваенным інжынерам, штабістам. У адстаўку пайшоў у чыне генерал-маёра. Удзельнічаў у войнах Расіі з Турцыяй і Японіяй. (Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у "Браслаўскія сшыткі". Т.3. 1999. С.71). Каштоўная знаходка мае вельмі дрэнны стан і патрабуе апрацоўкі і кансервацыі.

## Браслаўскі каляндар

З дапамогай мёрскага краязнаўцы Вітаўта Ермалёнка ў Браслаўскі музей трапіў асобнік беларускага насценнага календара, выпушчанага ў Браславе ў 1942 г. Перад намі вельмі сціплае на някаснай паперы выданне памерам у палову стандартнага аркуша. Лісты адрыўныя, але не на кожны дзень, а на месяц. Назвы месяцаў пададзены па-беларуску, па-нямецку і па-руску. Астатнія тэксты надрукаваны ў асноўным на беларускай мове. У прадмове выдаўцы адзначаюць, што гэта другі каляндар, падрыхтаваны сіламі браслаўскай друкарні (наклад 5 тысяч асобнікаў). Значыць, першы каляндар быў на 1942 г. Прадстаіць знайсці хаця б адзін асобнік гэтага выдання.

Заканчваецца невялікая прадмова словамі: "...Набыўцам нашага скромнага календара шчырае пажаданьне "усяго добрага". Увогуле тэксты календара вельмі лаканічныя. Даюцца звесткі пра святочныя дні для каталікаў, праваслаўных, даўжыню дня, друкуюцца сельскагаспадарчыя,



Лістапад November 1943 Ноябрь

| Нядзеля | Панядз. | Аўтор. | Серада | Чацьв. | Пятніца | Субота |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | | | | |

медыцынскія, ветэрынарныя парады, змешчаны гістарычныя звесткі пра Браслаў, Друю, Бяльмонты, Мёры, Слабодку, Перабродздзе (узятыя з працы О.Гедэмана "Гісторыя Браслаўскага павета").

Амаль на кожным лісце сустракаем пагаворкі. Верагодней за ўсё, гэта мясцовыя варыянты і тым яны каштоўныя для нас: «Часамі бывае такі май, што каню сена дай, а сам на печ залязай.»; «Скупы два разы трацiцца, а ляны – два разы ходзіць.»; «Каму да чаго, а куме да ўсяго.»; «Каторы палец не ўкусі, а ўсё больна.».

На лісце за студзень 1943 г. ёсць запіс: "...У гэтым месяцы трэба набываць новы каляндар на 1944 г..." Аднак ці быў ён выпушчаны ў Браславе – невядома.

*Экспедыцыі, пошукі, цікавыя знаходкі*

# Знаходка, якую даўно чакалі

Сапраўды, часопіс, які выпускалі навучэнцы Дзісенскай гімназіі ў 1930-39 гадах, я шукаў гадоў дваццаць. У музеі СШ №3 была толькі ксеракопія аднаго нумара, дасланага некалькі год назад выпускніком Дзісенскай гімназіі ажно з ЗША. Нават дзіўна часам здавалася: у музеі ёсць адзінкавыя на Беларусі знаходкі, якім шмат тысяч гадоў, а параўнальна нестарога выдання не было ні ў раённай, ні ў Дзісенскай школах. І вось чытаю ў польскай газеце "Глос з-над Нёмна" артыкул аб знаходцы часопіса Анатолем Якаўлевым з Віцебска. Але ж гэта прозвішча мне добра знаёма, мы з ім даўнія сябры. Будучы капітанам другога рангу, ён, калі выйшаў на пенсію, пачаў актыўна вывучаць невядомыя старонкі Віцебшчыны, асабліва польскай культуры. Ён не адмовіў маёй просьбе і падараваў для музея набытыя ім нумары часопіса. Пры сустрэчы ён расказаў пра гісторыю знаходкі. Прачытаўшы абвестку ў віцебскай газеце аб продажы польскай літаратуры, ён наведаў гаспадара. Ім аказаўся былы выпускнік Дзісенскай гімназіі Сасновік з Германавічаў. Гэты чалавек ад'язджаў у Ізраіль і прадаваў сваю бібліятэку. Так часопісы трапілі ў наш музей.

Які быў змест знойдзеных часопісаў?

Рэдактарам часопіса быў вучань гімназіі Генрык Пухальскі, апекуном – прафесар гімназіі Станкевіч. У часопісе № 1-2 за 1939 г. першы артыкул прысвечаны патрону Дзісенскай гімназіі ксяндзу Гжэгажу Пірамовічу. Аўтар артыкула – вучаніца 4 класа Хрысціна Венбержанка. У сціслай форме яна здолела паказаць выдатную постаць XVIII ст. Пірамовіча, каторы шмат зрабіў для развіцця адукацыі Рэчы Паспалітай у той час. Артыкул Явіч Рэвекі – разважанні аб ролі маладога чалавека і фарміраванні яго галоўных каштоўнасцей: адукацыі, адказнасці перад сабой і грамадствам, самавыхаванні і г.д. Змястоўны артыкул Яўгена Мончыка з другога класа: гэты артыкул сапраўднае даследванне аб навучэнцах гімназіі. У ім разглядаецца сацыяльнае і тэрытарыяльнае паходжанне гімназістаў. Так, большая частка вучняў была з сем'яў, што валодалі ад 1 да 10 га зямлі (29 %) і ад 10 да 20 га (24 %). А вось навучэнцы з багатых гаспадарак (звыш 100 га) складалі толькі каля 9 %. Гэта абвяргае ранейшае ідэалагічнае меркаванне, што адукацыю атрымлівалі толькі дзеці паноў і асаднікаў. Больш паловы вучняў паходзіла з глухіх вёсак, 30 % з гарадоў тыпу Дзісна, 18 % – з мястэчак тыпу Язна, Пагост. З самой Дзісны было звыш 25 % вучняў, з Язна і Мікалаева - звыш 17 %, астатнія – з Шаркаўшчыны, Глыбокага і наваколля.

Артыкул Маслоўскай прысвечаны палітычным падзеям пасля заваёвы незалежнасці Польшчы. У гэтым нумары ёсць яшчэ адзін артыкул Явіч, прысвечаны польскаму паўстанцу і паэту Адаму Аснику. Выпускніца Наталля Шашко-Хвашчынска апавядае аб цудоўным падарожжы па Польшчы. З замілаваннем да роднага горада напісана апавяданне Пятроўскай Марыі "Мой родны горад". Напэўна, дачка камандзіра пагранічнай стражы ў Дзісне В.Таберска напісала артыкул аб 20-годдзі выхаду Польшчы да мора. Аб адпачынку ў харцэрскім лагеры на Нарачы апавядае Б.Шашко-Хвашчынскі. Ён друкуе і верш свайго сябра Антона Шантара "Нарачанскія хвалі".

Рубрыка "Арганізацыя нашага жыцця" паказвае вучнёўскае самакіраванне ў гімназіі і класах. Так, у гімназіі дзейнічалі наступныя секцыі (або міністэрствы): літаратурная (рэдакцыя "Нашага глосу), драматычная, спартыўная, музычная, краязнаўчая. "Святліца" займаецца асветніцкай дзейнасцю, распаўсюджваннем газет і часопісаў сярод вучняў і іх бацькоў. "Братняя дапамога" аказвала маламаёмасным вучням дапамогу ў набыцці падручнікаў. Цікава, што намеснікам у гэтай секцыі быў Эўгеніюш Забэлла, які зараз выдаў цудоўную кнігу пра Дзісну. У часопісе даецца інфармацыя аб дзейнасці ў Дзісне розных грамадскіх арганізацый.

Але асабліва пазнавальным для нас з'яўляецца часопіс "Наш глос" № 2 за 1938 год. Менавіта ў ім вучні-карэспандэнты даследуюць святы і звычаі нашага краю. Згадаем толькі іх назвы: "Дзяды", Каляды, Хрэсьбіны, Варажба, "Аб песні беларускай". Гэтыя публікацыі сапраўды можна назваць міні-даследваннямі па гісторыі звычаяў нашага краю, дзе прыведзены шматлікія прыклады. На мясцовым матэрыяле напісаны і мастацкія апавяданні: "Помста" і "Як Васіль Лапцёнак ажаніўся з Агатай Гарбузоўнай". У гэтым нумары змешчаны творы былога навучэнца гімназіі і рэдактара часопіса Яна Гушчы: верш "Аповесць аб фальварку" і фельетон. Акрамя названых раней карэспандэнтаў мы знаходзім новыя прозвішчы: А.Качан, Ю.Рымдзёнак, К.Іванькові, Я.Бабіч. Жартоўнае пажаданне выпускнікам гімназіі падпісана псеўданімам "Пірамавічанія".

Шмат звестак аб жыцці гімназіі і горада Дзісны мы даведваемся з рубрыкі "Календар рэпарцёра". Так, у 1937 г. гімназію наведаў ваявода. У народным доме адбыўся дэкламацыйны вечар

(заканчэнне на стар.7)

*Славутыя землякі*

# СХВАЛАСЯ ДУША ПАЭТА

...Мала хто на Узбярэжжы (**польскае ўзбярэжжа Балтыйскага мора - рэд.**) ведаў аб беларускай паэтычнай творчасці Міколы Дварэцкага, бо свае вершы на беларускай мове ён падпісваў псеўданімам Мікола Базылюк. Іх ён публікаваў у беластоцкай беларускай газеце "Ніва" з 1956 г. (з часу заснавання гэтай газеты). М.Дварэцкі не браў удзелу ў жыцці Гданьскага аддзялення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое дзейнічала на Узбярэжжы з 1967 г. Ён ніколі не наведваў сядзібы БГКТ, размешчанай у Гданьску па вул.Доўгі Торг 8 - 10. Тым не менш, Дварэцкі з большага арыентаваўся ў мерапрыемствах аддзелу па публікацыях у "Ніве", якую захоўваў з першага нумара.

На Узбярэжжы паэт пражыў больш за 40 гадоў, тут і памёр 15 жніўня 1988 г. (дакладней - у Руміі, пахаваны ж у Лямборку). Толькі ў 1986 г. праз "Ніву" ён навязаў кантакт з Ганнай Іванюк, дзеячкай Гданьскага аддзялення БГКТ. М.Дварэцкі настолькі даверыўся Ганне, што пакінуў ёй сшыткі сваіх вершаў. Засталіся таксама яго лісты, поўныя неспакою з-за таго, што ўсё на свеце мінаецца. У лістах не датыкаўся тэмы аб сваёй даваеннай дзейнасці ў беларускім руху. У адным з лістоў, напісаных па-беларуску, па просьбе Г.Іванюк вельмі лаканічна апісаў сваё жыццё ў Беларусі: "*...Працаваў фізічна і вучыўся завочна. Пры савецкай уладзе быў дырэктарам няпоўнай сярэдняй школы. Праследваўся за палітычную працу сярод беларусаў таксама ў час санацыі, сядзеў у вязніцы ажно два разы. Вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе. Навучанне было па-расейску і першыя вершы пісаў па-расейску. Потым пачаў пісаць на матчынай мове. Друкаваўся ў Вільні. Належыў да арганізацыі Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры...*" (Ліст ад 14 студзеня 1987 г.) Вясной 1987 г. у Гданьскім беларускім клубе павінен быў адбыцца вечар Міколы Дварэцкага. Напэўна, стан здароўя паэта не дазволіў правесці гэты вечар. Планавалася сустрэча з ім і восенню 1988 г., але Мікола Дварэцкі не дажыў да спаткання. З сабой у магілу ён забраў не адну таямніцу. Сваім дзецям ён нічога не распавядаў пра сваё беларускае мінулае, а на Узбярэжжы апынуўся, уцякаючы ад спецпадраздзялення Чырвонай Арміі. Былі, праўда, асобы, якія маглі штонебудзь паведаміць пра М.Дварэцкага - гэта яго даваенныя прыяцелі, таксама знайшоўшыя прытулак у Польшчы: Мар'ян Пецюкевіч з Торуня, Юзаф Александровіч з Інавроцлава

і Яўген Аніська з Аўгустова (каля Бельска-Падляскага). Аднак іх таксама ўжо няма сярод жывых. Найбольш блізкім чалавекам для Міколы быў яго брат Юзаф, які жыве ў Калабжэгу. Юзафу вядома шмат эпізодаў з жыцця брата, пра якія той больш нікому не распавядаў. Мікола Дварэцкі вельмі баяўся выкрыцця яго беларускай дзейнасці ў міжваенны і ваенны перыяды, бо існавала патроза арышту і дэпартацыі ў СССР. Да таго ж ён хацеў забяспечыць спакойнае жыццё сваім дзецям. Вось чаму Дварэцкі пасяліўся ў вясковай мясцовасці, спачатку ў Лашцы, а пазней у Штутаве, каб быць далей ад горада і палітыкі, жыць спакойным жыццём пчаляра. Але з тугі па Радзіме, якая толькі ў 1991 г. стала незалежнай, у сэрцы нараджаліся вершы. У лістах да брата Юзафа, напісаных па-беларуску, гэта туга, самота выяўлялася таксама выразна і глыбока: "...*Цяжка жыць сярод чужых і невядомых людзей. Са сваімі таксама як з чужынцамі. Ці магу пачытаці ім свае вершы, напісаныя на матчынай мове? Ці варта ўвогуле ўсё распавядаць аб сабе?..* (01.10.1987 г.)". "...*Мы абодва выхаплены вайной з бацькавай старонкі. Цяжка тут жыць. Зараз жыву ў Галінкі, якая такая добрая і мілая, але не магу паразмаўляць як з табой. Тое самае і з Юркам. Што ж было рабіць? Не існавала іншага выйсця. Добра наогул, што ўсё так скончылася. Але зараз, пад канец жыцця, так хочацца пабыць хаця б пару хвілін там, дзе нарадзіўся і гадаваўся. Але гэта немагчыма. Застаецца толькі туга, туга*...(15.02.1988 г.)". "...*Ты адзіны чалавек, якому магу напісаць пару слоў на матчынай мове. Гляджу на бібліятэку. Столькі кніжак. А хто будзе чытаць пасля маёй смерці? Былі прычыны, што ані сын, ані дачка не пайшлі слядамі бацькоў. Не было іншага выйсця. Праўда горкая і балючая. Зараз, калі сам застаўся ў чатырох сценах, яшчэ болей усё перажываю...*" (Ліст без даты, верагодней за ўсё, напісаны перад смерцю).

Кім жа быў М.Дварэцкі перад тым, як пасяліўся на Узбярэжжы? Яго прозвішча часта з'яўлялася ў беларускай прэсе міжваеннага часу, якая выдавалася ў Польшчы.

Нарадзіўся 6 верасня 1903 г. у мястэчку Іказнь Браслаўскага павета ў праваслаўнай сялянскай сям'і Васіля і Марыяны Дварэцкіх. Быў самым малодшым з 9-ці дзяцей. Меў 7 братоў (Юзафа, Аўгустына, Уладзіслава, Аляксандра, Яна, Пятра і Паўла) і сястру Надзею. Жылі надзвычай бедна. Айцец займаўся рыбалоўствам, балазе іх хата стаяла ўсяго 50 м ад возера. На працягу года хадзілі басанож, а голад супакойвалі сушонай рыбай, якая заўсёды была ў хаце. Дзеці з маленства вучыліся рыбнай лоўлі. Браслаўшчына з'яўляецца беларускай краінай азёраў, якая нагадвае Мазуры. Па рыбу выпраўляліся ажно на Аўгустоўскія азёры. Юзаф Дварэцкі ажаніўся яшчэ перад першай сусветнай вайной і жыў у Рызе. У Іказнь вярнуўся пасля вайны і быў войтам у Перабродздзі. Падтрымліваў беларускі рух у наваколлі і працаваў на яго карысць, з гэтай прычыны быў у 1926 г. пазбаўлены пасады войта і вымушаны быў заняцца рыбалоўствам. Брат Мікола дапамагаў яму. Ян і Пётр апынуліся ў СССР, дзе былі служачымі. За тое, што пісалі лісты да родных у тагачасную Польшчу, расстраляны – адзін у Ленінградзе, другі на Украіне. Аўгустын настаўнічаў у Дзвінску. Павел працаваў у Іказні ў бюро адміністрацыйных і судовых спраў, касе Стэфчыка і кіраваў пажарнай аховай, якую сам і заснаваў. Уладзіслаў і Аляксандр займаліся сельскай гаспадаркай. Надзея жыла ў Архангельску і змагла наведаць родных у Іказні толькі ў 1940 г. пасля далучэння ўсходніх крэсаў да СССР. Мікола закончыў расійскую царкоўна-прыходскую школу, потым вучыўся на шаўца ў Антона Развадоўскага з недалёкай вёскі Свідэршчына. Пасля года навучання вярнуўся ў Іказнь і адкрыў шавецкую майстэрню. У гэты час Іказнь апынулася ў межах польскай дзяржавы. М.Дварэцкі ўключыўся ў беларускую дзейнасць – як раз ішла кампанія па выбарах у парламент. Быў 1922 г. Беларусы перажывалі расчараванне вынікамі Рыжскай мірнай дамовы і беларускія землі аказаліся падзеленымі паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Утварыўся Беларускі выбарчы камітэт. Вылучылі сваіх кандыдатаў у паслы і сенатары. У 1939 г. М.Дварэцкі ўспамінаў: "...*За некалькі месяцаў да галасавання мяне выклікаў адзін са старэйшых свядомых беларусаў і распавёў пра беларускі ліст і пра постаць ксяндза Адама Станкевіча. Перад выбарамі ўсе: і каталікі, і праваслаўныя ведалі ксяндза Станкевіча, усе адзінагалосна сцвярджалі: на якім лісце лісце будзе Станкевіч, за такі ліст і будзем галасаваць...*" М.Дварэцкі стаў дзеячом Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі (БХД), удзельнічаў у яе з'ездах, прадстаўляў у арганізацыі праваслаўную фракцыю. Першыя вершы напісаў на рускай мове. У беларускай газеце "Вызваленне народу" у 1921 г. апублікаваў верш "На сход", які падпісаў псеўданімам "Меньшы сын Базыля". Пазней публікаваўся ў розных беларускіх перыядычных выданнях (напрыклад, у "Шлях Моладзі") пад псеўданімам Мікола Базылюк. Занятак шаўца неўзабаве пакінуў, жыў з рыбалоўства, а потым з гандлю шавецкіх скур і саджанцаў пладовых дрэў (меў гадавальнік). У дні кірмашоў наведваўся ў Браслаў, Друю, Ёды, Пагост і прадаваў свой тавар. Сабраў багатую беларускую бібліятэку, якую неаднойчы канфіскоўвала паліцыя. Аднак Дварэцкі ўпарта яе аднаўляў. Займаўся прапагандай беларускіх выданняў, за што двойчы пабываў у Віленскай Лукішскай вязніцы. Між іншым знаходзіўся там вясной 1928 г. разам з іншымі беларускімі дзеячамі Булыгам і Краўчонкам. Былі вызвалены за залог, які заплаціў за іх пасол БХД Альбін Стэновіч ("Беларускі дзень", № 20, 30. 05.1928 г.). 25.XI.1928 г. удзельнічаў у з'ездзе прадстаўнікоў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў Вільні. Быў у ліку 103 дэлегатаў. Меў прамову як дэлегат Браслаўшчыны: "...*Гледзячы на тое, што Браслаўскі павет на гэтым з'ездзе прадстаўлены не вельмі шматлюдна, не трэба аднак меркаваць, што яго насельніцтва не цікавіцца з'ездам і ўвогуле беларускай справай. Нязважаючы на тое, што на кожным кроку сустракаюцца перашкоды, ідэалогія БХД пашырае пастаянна свой уплыў, бо гэта партыя не арыентуецца ні на захад, ні на ўсход, а апіраецца толькі на людзей і гэта, безумоўна, лепшы шлях. На Браслаўшчыне вялікім попытам карыстаецца беларуская прэса, а асабліва "Беларуская Крыніца". Улады перашкаджаюць распаўсюджванню беларускай перыёдыкі, часта па пошце не даставаляі выданні падпісчыкам*...(Сталь "З'езд прадстаўнікоў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі", "Беларуская Крыніца", № 54, 30.XI.1928, с.1-2.)". На гэтым з'ездзе М.Дварэцкі ўвайшоў у склад ЦК БХД, быў намеснікам сакратара Янкі Пазьняка, тагачаснага рэдактара "Беларускай Крыніцы". Старшынёй партыі, якая мела ўплыў на паўночным усходзе Польшчы, быў абраны лекар Гагалінскі, а яго намеснікам Якім Красоўскі з мясцовасці Харкі Пастаўскага павета. М.Дварэцкі і Я.Красоўскі прадстаўлялі праваслаўную фракцыю БХД. 27 лістапада 1928 г. яны прадставілі праваслаўнаму архіепіскапу віленскаму і лідскаму мемарыял па справе ўвядзення беларускай мовы ў праваслаўных цэрквах Заходняй Беларусі ("Беларуская Крыніца", № 54, 30.XI.1928 г., с.3). Абараняў землякоў, якія праследваліся польскімі ўладамі і інфармаваў прэсу аб такіх выпадках: "Шаноўны Пан Рэдактар! Прашу надрукаваць ніжэй пададзены тэкст. З прычыны бандыцкага нападу на віцэстаршыню БХД Якіма Красоўскага, выказваю грамадзяніну Красоўскаму шчырыя спачуванні ў яго пакутах, а таксама зычанні хутчэйшага выздараўлення. Маю надзею, што гэты бандыцкі напад атрымае шырокі розгалас сярод беларускіх мас, што дазволіць знайсці злачынцаў і належным чынам іх пакараць. Прашу прыняць словы шчырага сяброўства. М.Дварэцкі. Іказнь. 10.XII. ("Беларуская Крыніца", 1930, № 32, с.4)".

**Алена Глагоўская**, выкладчыца кафедры беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта. Гданьск.

(заканчэнне ў наступным нумары)

*Артыкулы*

# ТАЯМНІЧЫ МОГІЛЬНІК

Здаецца наш горад Мёры ўжо добра абследаваны і вывучаны з пункту гледжання археалогіі. На працягу апошніх 25 год у гэтым кірунку працуе археолага-краязнаўчы гурток "Аргапаўты мінулага". Напрыклад, знойдзеныя "Аргапаўтамі" каменныя сякеры, разцы і скрабкі сведчаць, што нашаму паселішчу не менш чым чатыры тысячы год. Але ў межах сучаснага горада археолагамі практычна не было знойдзена рэчаў, датуемых X-XV стагоддзямі. Большасць знаходак якраз адносяцца да больш позняга часу, калі Мёры ўжо згадваліся ў пісьмовых крыніцах. Такімі экспанатамі з'яўляюцца манеты – дзінарыі 1515 г., якія былі знойдзены на месцы былых культавых збудаванняў: царквы, касцёла і манастыра. І вось, нарэшце, сапраўдная сенсацыя ў гісторыі нашага горада. Выпадкова ў час будаўніцтва новага дома на месцы старой пабудовы на беразе Мёрскага возера, былі выяўлены старажытныя пахаванні. Пры пракладцы падмурка, які рабілі глыбейшым за папярэдні, на глыбіні 50-70 см, будаўнікі натыкнуліся на шэсць шкілетаў. Большасць пахаванняў была арыентавана галавой на паўночны захад. Яны былі мужчынскія, жаночыя і дзіцячыя. Верагодна пахаванне ніякім чынам не звязана з ваеннымі падзеямі. Ямы з пахаваннямі былі запоўнены культурным слоем, што азначае наяўнасць існаваўшага на гэтым месцы паселішча. Пры аглядзе мясцовасці былі знойдзены рэшткі керамічнага посуду. Гэта была міскападобная лепная кераміка вясковага тыпу. Увогуле яе можна аднесці да XIV –XV ст. Адсутнасць, акрамя керамікі, якіх-небудзь рэчаў ля пахаванняў сведчыць аб тым, што пахаванне зроблена язычнікамі. У пацверджанне гэтаму – наяўнасць вялікага валуна непадалёку. Вялікія камяні заўсёды служылі месцам пакланення язычнікаў. Прааналізаваўшы ўсе дадзеныя можна зрабіць папярэднія высновы: паселішча, якое было на гэтым месцы адносілася да позняга жалезнага веку (I IV ст. н.э.). Спадзяюся, што ў нас яшчэ будзе магчымасць прадоўжыць даследванні на месцы старажытнага могільніка ў Мёрах. А кавалкі керамікі можна ўжо сёння ўбачыць у музеі СШ№3 г. Мёры.

**Вітаўт Ермалёнак**, настаўнік СШ№3 г.Мёры,
кіраўнік гуртка «Аргапаўты мінулага»

# ВІДЗСКАЯ СПРАВА. 1940 год.

*У цэнтры мястэчка Відзы, непадалёку ад касцёла, знаходзіцца адзіны на Браслаўшчыне помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій – вялізны драўляны крыж з укрыжаваннем і памятнай шыльдачкай. Ля падэшвы помніка разбіты кветнік. У 40 – 50-я гады, калі Відзы былі цэнтрам раёна, у некалькіх дзесятках метраў ад крыжа знаходзіўся будынак НКУС. Праз гэты страшны будынак з сутарэннямі прайшлі сотні чалавек. Большасць з іх сталі ахвярамі безпадстаўных палітычных рэпрэсій. З надыходам новай улады праследваліся людзі, якія былі занятыя на польскай дзяржаўнай службе (настаўнікі, леснікі, чыноўнікі), актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім і палітычным жыцці, мелі яскрава выражаную польскую нацыянальную свядомасць. Праз НКУС праходзілі жыхары мястэчка і наваколля, якія сталі ахвярамі паклёпаў, якія ў размовах дапускалі неасцярожныя выказванні і г.д.*

*Даводзіцца чуць і такія развагі – але ж органы НКУС рабілі і патрэбную справу: змагаліся з бандытамі, злодзеямі. Няма чаго спрачацца – спецслужбы існуюць, пакуль існуе дзяржава і дзяржаўны апарат. Але важна, каб яны дзейнічалі ў межах закону. У 40 – 50-я гады НКУС гвалтоўна парушаў законнасць, дзейнічаў, не зважаючы на правы асобы. У выніку сотні, тысячы чалавечых лёсаў былі паламаныя. Важна не забывацца пра гэту трагічную старонку нашай гісторыі і часцей звяртацца да яе як балюча гэта ні было б.*

*Каля крыжа ў Відзах можна было б згадваць дзесяткі драматычных чалавечых лёсаў, якія былі зламаны бязлітаснай рэпрэсіўнай машынай. Некаторыя такія гісторыі захаваліся дзякуючы чалавечай памяці, некаторыя можна прасачыць на старонках архіўных дакументаў.*

*Ніжэй размова пройдзе пра справу відзскага ксяндза Станіслава Матышчыка, які быў арыштаваны і рэпрэсаваны НКУС у 1940 г. У свой час гэта справа выклікала хваляванні сярод мясцовых вернікаў. Яны паспрабавалі выратаваць свайго святара, але некаторыя з іх паплаціліся за гэта. Новая ўлада ў справе ксяндза Матышчыка прадэманстравала жыхарам мястэчка сваё сапраўднае аблічча.*

*З усталяваннем савецкай улады новая адміністрацыя павяла барацьбу з рэлігіяй. Прыкладаліся вялізныя намаганні, каб нейтралізаваць уплыў святароў, асабліва каталіцкіх, на насельніцтва. Не грэбавалі ніякімі метадамі, шукалі новыя зачэпкі і падставы. Відзскага ксяндза спачатку абвінавацілі ў нявыплаце падаткаў. З дапамогай парафіян гэта абвінавачванне ўдалося адвесці. Уначы 16 верасня 1940 г. С.Матышчыка паспрабавалі арыштаваць за тое, што ён нібыта "...систематически проводил среди верующих контрреволюционную агитацию, разжигал их ненависть к Советской власти...". Ксяндза не аказалася дома. Сярод людзей пачаліся хваляванні і супрацоўнікі НКУС абвясцілі, што больш не маюць прэтэнзій да святара. Але гэта быў толькі тактычны ход. С.Матышчыка схапілі пазней за межамі мястэчка і змясцілі ў пастаўскую турму.*

*У справе С.Матышчыка, якая зберагаецца ў Маладзечанскім архіве (Ф.60, воп.3, спр.824), няма ніводнага доказу віны святара. Ёсць лісты парафіян, якія да апошняга верылі ў справядлівасць уладаў, дабіваліся вяртання ксяндза.*

*Прыводзім два такіх лісты з захаваннем правапісу арыгіналаў.*

№ 1.

*Товарищу прокурору Видзевского района г.Видзы*
*От группы верующих Римско-Католического костёла*
*г.Видзы Вилейской области Западной Белоруссии БССР*
*Заявление.*

*Мы, верующие прихожане видзовского костёла обращаемся к вам Товарищ Прокурор с горячей просбой, разясните нам интересующий нас вопрос. Будте настолько добрие прискорит следствие нашего ксендза Матыщика Станислава Павловича, и просим вас сердечно облегчите его в следствии допроса, и таким образом допомогите нам выдвинут его из заключения тюремного, и дать нам возможност свободно исполнят религионные обряды в костеле Видзах. Мы прихожане чувствуем сердечно, что он ни в чём не виноват как его обсудили*

*и что уверили некоторым злоумышленникам как ксендзу так и советским властям, уверяем вас что тие злоумышленники идут против Закона и тем самим нарушили свободу Сталинской Конституции. И вот поэтому мы Прихожане просим вас Товарищ Прокурор успокоете волнение народа 12 тысяч прихожан Видзевского костёла, мы чувствовали, что только Товарищ Прокурор можете успокоит народ нашего прихода и ожидает от вас благополучило ответа.*

*Ещё раз мы граждане обращаемся к вам Товарищ Прокурор с вопросом об чём приходится дело нашего ксендза Матыщика Станислова, если он не выплатил податка, то таковой мы граждане внесём полностью, только укажите нам правильный налог, а немедленно просим вас освободите нам ксендза Матыщика Станислава.*

*Прихожане Видзевского костёла*
*в г.Видзах.*

№ 2.

*Товарищу Иосифу Висарионовичу Сталину в Москве*
*Прихожан 12 тыс.человек Видзовского костёла*
*г.Видзы тоже и товарица Матыщика Павла Ивановича*
*ул.Кирова, дом № 7.*
*Прошение.*

*Я, Матыщик Павел Иванович назваым пенсионер хотя ещо от советской власти ни одной пенсии не получил, жительство моё не определонное потому что хозяйства никакого не имею, и дома своего тоже нет, я проработавши на железной дороге 40 лет в должности рабочего уволен как инвалида и сейчас я и жена моя старуха погибнем с голода. Один был сын наш кормитель Матыщик Станислов Павлович священник при костеле в городе Видзы Вилейской области, но и етого ксендза без никакого следствия, без всякой справки и без никакого суда Видзовское НКВД совместно с милицией прибыли но квартиру ксендза Матыщика Станислава и взяли во внимание вещи его. Но окозалось, что неправильно поступили, и вещи вернули ксендзу обратно. После чего через три недели ночью в три часа с 15 по 16 сентября группа НКВД совместно с милицией вторично прибыли в дом ксендза и думали взят его и осадит в тюрьме, но ксёндз в то время был уехавши по делам службы своей и опоздавший не ночивал дома, а прихожане узнавши у его, что ксендза хотели взят, то силою спратали его, и вот началос волнение народа, а тогда НКВД 22 сентября объявили народу всего прихода, что они до ксендза ничево не имеют, и его арестовыват не хочит, тогда прихожане выпустили ксендза на свободу, и вот через неделю 30-го сентября ксёндз поехал в костёл в Годутишки на два дня, а када Видзовское НКВД узнали, что ксёндз в Годутишках так поехали на аутомобиле 1-го октября и прикораулили когда ксёндз выехал из Годутишек на лисафете и догнали его на дороге, и взяли ксендза и его лисафет на аутомобиль и как окозалось увезли в Поставы, и вот до сего время не известно где он находится. И вот сейчас сколохнулась уся Белорусь. Острое ностроение народа. Почему нарушена наша свобода, взятием ксендза Матыщика Станислава, потому что народ Западной Белоруссии просит свободы как гласит Сталинская Конституция и поетому мы родители ксендза Павел и Зофия, а приетом 12 тысяч человек прихожон Видзовского костёла покорнейше просим Вас Товарищ Сталин, возмите твёрдо во внимание, нашу просбу, асвободить ношего ксендза Матыщика Станислава Павловича, чувствуем сердечно, что ти ни в чём не виноват, как Видзовские власти обсудили его, и что уверили некотрим людям злоумышленно как ксёндз, так и Советским властям. А почему. Потому, что оне хочут управлять всем породом как ксендзом так и советскими властями, словом что они идут против закона, и тем самим нарушают свободу Сталинской Конституции.*

*Покорнейше просят вас Товарищ Сталин*
*12 тысяч прихожан и родители*
*ксендза Павел и Зофья Матыщик.*
*29.X.1940.*

*Усе захады відзскіх вернікаў аказаліся дарэмнымі. Справа С.Матышчыка была адпраўлена на разгляд Асобай нарады НКУС СССР. Там апраўдальных вырокаў не выносілі. С.Матышчык атрымаў 8 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў.*

*Аднак пацярпеў не толькі С.Матышчык. супрацоўнікі НКУС не даравалі жыхарам Відз іх актыўнай пазіцыі ў абароне свайго святара. Узнікла справа аб " массовом выступлении против Советской власти...", ахвярамі якой сталі 6 чалавек. Аб гэтым у наступным нумары.*

**Кастусь Шыдлоўскі**, *навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея*

# Вядомы хакеіст — наш зямляк

Прозвішча хакеіста Аляксандра Бяляўскага добра вядома ў Латвіі. Ён – лідэр нацыянальнай зборнай краіны. У савецкія часы выступаў за рыжскае "Дынама" у вышэйшай лізе. Больш 10 гадоў гуляе форвардам шведскага клуба "Б'ерклoвен". Быў прызнаны лепшым бамбардырам клуба за ўвесь час яго існавання.



Бацька Аляксандра Бяляўскага родам з в.Дрысвяты. У Рызе праходзіў вайсковую службу. Там ён пазнаёміўся з дзяўчынай-сібірачкай. Утварылася сям'я. Часова будучая маці Аляксандра пераехала ў Відзы, дзе і з'явіўся на свет будучы хакеіст. У Відзах Аляксандр жыў каля года, пасля чаго сям'я пераехала ў Рыгу. На Браслаўшчыну А.Бяляўскі прыязджаў да сваякоў падчас школьных канікул. Калі стаў дарослым, такой магчымасці больш не прадставілася. Хаця, як прызнаецца Аляксандр, жаданне наведаць гістарычную радзіму заўсёды ёсць.

*Па матэрыялах газеты "Прессбол"*
*ад 6 снежня 2000 г.*

## Гісторыя па сямейных дакументах

Шмат у каго ў шафах, на дне камодаў ці куфэркаў, у скрынях на гарышчы захоўваюцца старыя, пажоўклыя ад часу, дакументы. Лёс гэтых паперак зазвычай незайздросны. У лепшым выпадку іх перакладваюць з месца на месца падчас генеральнай прыборкі. А часцей за ўсё як непатрэбшчына ідуць на сметнік ці ў печ. Шкада і крыўдна, бо на пожоўклых аркушах адлюстраваны моманты гісторыі асобнага чалавека, яго сям'і, а мо і цэлай вёскі. Не паляпуйцеся, аднясіце непатрэбныя паперы ў музей – яны абавязкова спатрэбяцца, як мінімум, зберагуцца.

Вучань другой браслаўскай школы Ігар Панкоў некалькі разоў прыносіў цікавыя дакументы ў музей. Апошнім разам – комплекс дакументаў, пераважна пачатку XX ст., якія датычацца землеўладальнікаў з роднай вёскі Ігара – Маскавічы. Гэта вёска перш-наперш вядома знакамітым гарадзішчам XI-XIII стст. Некаторыя моманты яе гісторыі ўстаноўлены па архіўных крыніцах. Дакументы, прынесеныя Ігарам Панковым, дазваляюць прасачыць кароткую гісторыю Маскавіцкага (ці Мацкаўскага, як у дакументах) пазямельнага таварыства.

Гэта таварыства ўтварылі ў 1906 г. тры гаспадары вёскі: Ігнат, сын Войсіла, Брылевіч, Мікалай і Восіп, сыны Ігната, Брылевічы. Часам таварыства называлася Брылевіцкім. Яно было ўтворана спецыяльна для таго, каб атрымаць часовую пазыку ў сялянскім пазямельным банку. Верагодней за ўсё, асобнаму гаспадару зрабіць гэта было значна цяжэй ці ўвогуле немагчыма. У таварыстве ж дзейнічаў прынцып калектыўнай адказнасці.

Пазыка ў банку спатрэбілася сялянам, каб набыць кавалак зямлі. Яшчэ ў 1902 г. сяляне Ігнат Брылевіч і Ігнат Жвірблінскі паспрабавалі набыць за 1 500 рублёў у барона Эдмунда Гана, уладальніка маёнтка Завер'е, дванаццаці дзесяцін урочышча Бохіна (Бохі). Гаспадары ўнеслі задатак 30 рублёў, але зямлю не выкупілі: відавочна, не хапала сродкаў. Тады тры гаспадаркі Брылевічаў пачалі працэс утварэння таварыства і афармлення пазыкі ў памеры 1150 рублёў. Гэта вялікая па тых часах сума грошай. Сярод дакументаў ёсць акт вопісу маёмасці Мікалая і Восіпа Брылевічаў (браты гаспадарылі разам), складзены пры набліжэнні фронта ў 1915 г. Уся маёмасць сям'і ацэнена ў 3 393 руб. (хата каштавала 600 руб., конь – 120 руб.). Увогуле гаспадарка была даволі моцная: меліся 2 коні, жаробка, 3 каровы, цялушка, 2 бычкі, 18 авечак, 7 свіней, 4 фурманкі, 4 санак.

Віленска-Ковенскае аддзяленне банка выдала таварыству пазыку. 19 кастрычніка 1906 г. відзскі натарыус Пелікан аформіў дакументы на пакупку зямлі ў барона Э.Гана. Таварыства прадстаўляў яго старшыня Восіп Брылевіч. Сяляне набылі 12 дзесяцін (дзесяціна – 1,09 га) 1872 квадратныя сажні (сажань – 2,1 м) зямлі за 1 500 руб. Кожны з жыхароў атрымліваў па 4 дзесяціны 624 сажні і павінен быў унесці 500 руб. (10 руб. задатку, 100 руб. – уласныя грошы, 390 руб. – з пазыкі). 10 сакавіка 1907 г. датуецца ўводны ліст, паводле якога Брылевічы сталі законнымі ўладальнікамі зямлі ўрочышча Бохіна.

Аднак любую пазыку трэба вярнуць. Банк прадугледжваў пазыку тэрмінам на 50,5 гадоў. Два разы на год таварыства павінна было выплочваць банку па 25 руб. 88 кап. Захаваліся квіткі банка да 1915 г. Потым на Браслаўшчыну прыйшла вайна. Пазней мяняліся ўлады, дзяржавы. Гісторыя Мацкаўскага таварыства скончылася. Не трэба было плаціць за пазыку. Але наўрад ці сяляне адчулі палёгку. Войны, рэквізіцыі, разбурэнні, калектывізацыі – усё гэта не спрыяла нармальнаму развіццю гаспадаркі. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

***Кастусь Шыдлоўскі**, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея*

## З гісторыі вёскі Маскавічы

Гарадзішча Маскавічы атрымала сваю назву ад вёскі, якая знаходзіцца ў васьмі сотнях метраў на поўнач ад помніка. Аднак дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што гарадзішча размешчана на даўніх землях вёскі Рацюны. Як сведчаць старажылы, апошнім перад калектывізацыяй гаспадаром надзела з Замкам (так называюць гарадзішча мясцовыя жыхары) быў селянін з Рацюнаў Зянон Рынкевіч. Ля падэшвы паўночнага схіла гарадзішча праходзіла даволі выразная ў старыя часы мяжа паміж Рацюнамі і Маскавічамі. Археолаг Ф.Пакроўскі, які ў канцы XIX ст. упершыню зафіксаваў помнік, адзначыў, што знаходзіцца ён "...на поле деревни Рацишек". Тым не менш, у XX ст. за гарадзішчам замацавалася назва Маскавічы.


Старонка інвентара манастырскай валасці. 1673 г.

Вёска Маскавічы зараз адносіцца да Слабодскага сельсавета. У 1998 г. тут налічвалася 15 двароў, 37 жыхароў. Сялібы гэтай вёскі ўтульна раскіданы ў пачатку маляўнічага ўзгорыстага паўвострава, які глыбока ўдаецца паміж азёрамі Неспіш і Недрава. Навакольныя землі, у тым ліку і Замак, на працягу некалькіх стагоддзяў адносіліся да ўладанняў Браслаўскага манастыра. Асноўныя пабудовы манастыра знаходзіліся на востраве воз.Неспіш паблізу в.Шавуры (2 км на поўдзень ад Маскавіч). Манастыр, які спачатку быў праваслаўным, а з XVII ст. стаў уніяцкім, у пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў пачатку XVI ст. Каля 1500 г. вялікая княгіня Алена, жонка Аляксандра Ягелончыка, ахвяравала абіцелі 15 сялян з зямлёй, сенажацямі, возерам і млыном. Паступова на ўсходнім беразе возера Неспіш сфармаваўся манастырскі гаспадарчы комплекс. У крыніцах ён называецца валасцю ці маёнткам. З якога часу Маскавічы ўвайшлі ў склад манастырскіх уладанняў, невядома. Упершыню ж паселішча згадана пад назвай Шыпкаўшчына ў інвентары манастырскай валасці 1673 г. У дакуменце адзначана, што тры валокі Шыпкаўшчыны нікім не заняты. Трэба згадаць, што незадоўга перад гэтым скончылася адна з самых спусташальных войнаў на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага – вайна з Маскоўскай дзяржавай 1654-1667 гг. Брас-лаўскі павет страціў палову дымоў, кожнага другога жыхара. У канцы XVII ст. на пустуючыя надзелы Шыпкаўшчыны перабраўся Якуб Мацкевіч з сям'ёй – жонкай і двума сынамі. Аб Мацкевічах вядома, што да вайны яны жылі дзесьці на Віленшчыне, арандуючы кавалак зямлі ў нейкага Янкоўскага. У час ваеннага ліхалецця сям'я Мацкевічаў, каб выратаваць жыццё і нажыты скарб, была вымушана зніцца з абжытага месца. Прытулак яны знайшлі на Браслаўшчыне. Тры гады Мацкевічы жылі на тэрыторыі Дрысвяцкага ключа, потым на 6 гадоў прыпыніліся ў Сакалоўшчыне (Крукоўшчыне) Браслаўскага староства і нарэшце аселі на пустуючых валоках Шыпкаўшчыны. Гэта паселішча, якое крыніцы вызначаюць па-рознаму: вёскай, засценкам, выселкам, абрубам, паступова атрымала новую назву – Мацкевічы. На працягу XVII-XVIII стст. абедзьве назвы ўжываліся звычайна побач. У XIX ст. новая назва канчаткова выцесніла старую.

(заканчэнне ў наступным нумары)

*Выдавецкія навіны*

# НОВЫЯ КАРТЫ БРАСЛАЎШЧЫНЫ




У апошнія гады картаграфічныя прадпрыемствы Беларусі выпусцілі шэраг карт рэгіёнаў Беларусі. Не абойдзена ўвагай і наша Браслаўшчына. У 1999 г. пабачыла свет карта "Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры", якая стала папулярнай сярод жыхароў і гасцей Браслаўшчыны. Змест карты падрыхтавалі супрацоўнікі Нацыянальнага парка Л.Лінеў і І.Касьяненка. Яна складаецца з карты раёна (1:100000), рэльефа дна буйнейшых азёраў Браслаўскай групы (1:50000) і план Браслава (1:10000). Гэтыя часткі ўдала спалучаюцца паміж сабой.




У 2000 г. аб'яднанне "Белгеаграфія" падрыхтавала і выпусціла іншую версію карты "Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры". Яе маштаб больш дробны (карта раёна 1:150000, карта рэльефа дна 1:75000, план цэнтральнай часткі Браслава 1:15000). У адрозненне ад цалкам рускамоўнай папярэдняй карты дадзеная карта чатырохмоўная: на беларускай, рускай, англійскай і нямецкай мовах. Усе назвы на карце пададзены па-беларуску кірыліцай, а побач падаецца іх транскрыпцыя на лацініцы.

На жаль, карта мае шэраг недахопаў, утрымлівае істотныя памылкі. Пералічым некаторыя з іх: на плане Браслава адсутнічае гісторыка-краязнаўчы музей, а Музей традыцыйнай культуры названы Домам рамёстваў, на вул.Пушкіна абазначана выставачная зала, якая не функцыянуе каля 5 гадоў, не пазначана Замкавая Гара — важнейшы экскурсійны аб'ект Браслава, на карце раёна паказана як існуючая сядзіба ў Бяльмонтах (не існуе з 40-х гадоў), як важны аб'ект адлюстраваны млын у Зарачцы (разбураны 4 гады назад), затое не трапілі на карту такія цікавыя помнікі, як забудова Ю.Клоса ў Браславе, капліцы ў Ахрэмаўцах і Старадварышчы, стараверскія малельныя ў Мінкавічах, Кірыліна, Булавішках. Увогуле, укладальнікі не ўключылі ў змест карты ніводзін гістарычны, археалагічны, геалагічны помнікі, якімі так багаты рэгіён. Турысты, якія будуць карыстацца гэтым выданнем, не атрымаюць надзейнага даведніка па славутасцях раёна. Менавіта ў гэтым галоўная задача падобных карт.

Больш прадумана падрыхтавана карта для рыбакоў "Браслаўскія азёры" (1:50000). Яна пабачыла свет у 2001 г. Карта адлюстроўвае цэнтральную частку Браслаўскай азёрнай групы з указаннем глыбінь. Паказаны абсталяваныя месцы адпачынку. Удала дапаўняюць карту каляндар рыбалова і інфармацыя пра Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры".

# Знаходка, якую даўно чакалі

(Заканчэнне, пачатак на стар.2)

пані Рыхтар. Краязнаўчы аддзел наладзіў свята мясцовых песень і танцаў у "Белым гмаху". Адбываліся літаратурныя чытанні па прэзентацыі новых кніг, урачыстасці, прысвечаныя дню незалежнасці, паўстанням, канферэнцыі. Для навучэнцаў старэйшых класаў і выкладчыкаў праводзіліся танцавальныя вечарыны. Адзначаліся дні нараджэння прэзідэнта, імяніны дырэктара гімназіі Язэпа Менжыка. У канцы часопіса падаецца спіс новых кніг, што паступілі ў бібліятэку гімназіі. Гэта вядомыя аўтары: Д.Лондан, В.Скот, Р.Кіплінг, Г.Сенкевіч. Дасцца спіс спецыяльных кніг па музыцы, гісторыі і інш. У часопісе змешчана абвестка, што навучэнцы гімназіі і іх бацькі сабралі 1200 злотых для набыцця фурманкі і каня пад цяжкі кулямёт для пагранічнікаў Дзісны, таму патрэбныя для выдання трэцяга нумара часопіса грошы былі выкарыстаны для гэтай мэты. Подых набліжаючайся вайны асабліва моцна адчуваецца ў апошнім нумары "Глоса" № 4 за 1939 г. На першай старонцы змешчаны выказванні галоўнакамандуючага Рыдза-Сміглага з заклікам быць падрыхтаванымі да абароны Айчыны. У перадавым артыкуле рэдактара Генрыка Пухальскага "Школьная моладзь – дух вайсковы, дух геройскі" апавядаецца пра гераічныя старонкі барацьбы польскага народа за незалежнасць. На падобную тэму і артыкул С.Базылевіча "Народ у сумеснай працы з арміяй". Кранае сваёй чуллівасцю артыкул-разважанне аб маці Шашко-Хвашчынскай "Сэрца маці".

Высокі навуковы ўзровень артыкула Р.Явіч "Уражанні ад прачытанай новай польскай аповесці". Цікавыя разважанні ў артыкуле Яўгена Мончыка "Чаго чакае ад нас вёска?". У ім вучань спрабуе высветліць праблемы сельскай гаспадаркі Дзісеншчыны і ролю моладзі ў вырашэнні гэтых праблем. Аўтар заканчвае словамі: "...Благаслаўлена зямля, благаслаўлены народ, які жыве на гэтай зямлі...". У гэтым нумары змешчана таксама гумарэска "Як мой лепшы сябар атрымаў двойку."

У чацвёртым нумары змешчаны і спіс выпускнікоў гімназіі 1939 г. – іх усяго 10. Як заўсёды, шмат інфармацыі аб падзеях у гімназіі і Дзісне. Напрыклад: святкаванне Канстытуцыі 3 Мая ў Дзісне, вандроўка гімназістаў у Мікалаева, дзе гімназісты выступілі з пастаноўкай "Кракаўскае вяселле". Вяскоўцам спадабалася гульня маладых артыстак Я.Мачульскай, А.Лабуць, а таксама народныя танцы.

Такім чынам, кароткі агляд трох нумароў часопіса ўражвае змястоўнасцю і высокім узроўнем артыкулаў вучнёўскага выдання. Недарэмна з Дзісенскай гімназіі, якая існавала ўсяго менш за 20 гадоў выйшлі дзесяткі вучоных, паэты, грамадскія дзеячы, якія назаўсёды захавалі любоў да роднага краю.

***Вітаўт Ермалёнак**, настаўнік СШ№3 г.Мёры, кіраўнік гуртка «Арганаўты мінулага»*

## Куток калекцыянера

Напрыканцы 2000 г. Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь выпусціла спецыяльны канверт прысвечаны 500 годдзю з часу надання Браславу Магдэбургскага права. Малюнкі для канверта распрацаваў вядомы беларускі мастак Мікола Купава. На вялікім малюнку змешчана адлюстраванне панарамы старажытнага Браслава з замкам на пярэднім плане. Гэта фантазія мастака паводле малюнка на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г., выдадзенай у Амстэрдаме. Марка вырашана ў выглядзе кампазіцыі з выявамі герба Браслава з




прывілея 1792 г., абраза Маці Божай Браслаўскай і панарамы горада. 12 снежня 2000 г. у памяшканні пошты адбывалася гашэнне гэтых канвертаў спецыяльным штэмпелем "Першага дня". Такая акцыя праводзілася ў Браславе ўпершыню. На жаль яна не была забяспечана рэкламай і таму прайшла амаль незаўважанай.

## Да юбілею Яна Булгака



## Увага !!! Конкурс

З гэтага нумара «Павет» пачынае друкаваць пытанні віктарыны па гісторыі Браслаўшчыны. Кожны тур будзе ўключаць па два пытанні., спачатку простыя, потым больш складаныя. Пераможца тура атрымае падарунак.

Прызам для пераможцы першага тура будзе камплект каляровых паштовак «Гісторыя Браслава ў малюнках» з аўтографамі аўтараў. Адказы трэба дасылаць да 15 снежня на адрас музея.

Пытанні:

* Пералічыце, як мага больш версій паходжання назвы Браслава.
* Пад якой яшчэ назвай вядома возера Дрывяты

## Разгадай чайнворд



1. Тое, што ядуць і п'юць. 2. Састаўная частка адзення, якая засцерагае ногі чалавека ад шкодных знешніх уздзеянняў. 3. Верхняе зімовае мужчынскае і жаночае адзенне з аўчын. 4. Асноўная частка вупражы, надзяваецца на шыю каня. 5. Традыцыйная рыбалоўная снасць, рухомая пастка. 6. Духавы музычны інструмент тыпу флейтавых. 7. Вывучэне мінулага на аснове матэрыяльных астанкаў дзейнасці чалавека. 8. Гульнёвы карагод. 9. Прыстасаванне для сушкі посуду. 10. Залатая манета Рэчы Паспалітай, адпавядае 5 талерам. 11. Земляробчая прылада для пракладкі міжрадковых разор і акучвання бульбы. 12. Людасдства, паяданне людзьмі чалавечага мяса. 13. Дробная дэталь складаных, састаўных прылад працы, якія вырабляліся з крэменю ў эпоху каменнага века. 14. Тоўстая доўгая палка з паўкруглымі канцамі, якой таўкуць што-небудзь. 15. Вобраз, у старадаўніх беларусаў увасабляў цёмныя сілы. 16. Сукупнасць рытмічных і пластычных рухаў, пэўнага тэмпу і формы, якія выконваюцца ў такт музыкі. 17. Будынак прызначаны для захавання ваеннай зброі і боепрыпасаў, часткова для іх вырабу і рамонту. 18. Мужава сястра. 19. Назва народа, замацаваная старажытна-грэчаскімі гісторыкамі і географамі за пляменамі, якія насялялі ў сярэдзіне 1 тысячагоддзя да н. э. лясную зону Усходняй Еўропы. 20. Гліняная пасудзіна для заваркі чаю. 21. Каша з бобу ці гароху, запраўленая салам.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко.

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага адзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»